**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№43(707) 24 кастрычніка 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by






Анамальны снегапад у Глыбокім увечары 21 кастрычніка. Сняжынкі – велічынёй з запалкавы карабок!
*Фота Ул. Скрабатуна.*













## 26 кастрычніка – фэст святога Тадэвуша ў Лучаі

**Лучайская парафія (Пастаўскі раён) чарговы раз запрашае адсвяткаваць прыгожае свята з нагоды Апекуна парафіі святога Юды Тадэвуша, апостала – заступніка ў складаных і безнадзейных справах.**

Фэст адбудзецца сёлета 26 кастрычніка. Пачатак у 15 гадзін: адарацыя і Урачыстая святая Імша. На свята таксама запрошаны: хор «Ave Maria» Глыбоцкай парафіі і фольк-рок гурт «Alte Mente», г. Мінск. І па традыцыі, закончыцца феерверкам. Усіх рады будзем бачыць на фэсце!

## Докшыцкі раён

# Зямля гаспадароў любіць

■ Станіслаў Раманчук

**Са змешанымі пачуццямі вярнуўся нядаўна з замежнай камандзіроўкі дырэктар адной з вядучых гаспадарак Бярэзінскага краю – ААТ “Докшыцкі райаграсервіс” Мікалай Шульгат.**

Паколькі раён цесна супрацоўнічае з аналагічным Балвійскім Латвіі, то патомны аграрый не мог не пацікавіцца становішчам спраў у сваіх балтыйскіх калег. У фермерскай гаспадарцы латышоў, у якой пабываў беларускі дырэктар, атрымалі сёлета ўраджайнасць зерневых культур болей 60 цэнтнераў з гектара. Пры гэтым і ў іх, і ў нас умовы працы і гаспадарання зімой былі аднолькавыя. Але на беларускіх землях у выніку хлебная ніва аказалася горшай і толькі парадавала трыцікале ўраджаем больш за 40 цэнтнераў. Як аказалася, латышы на сваёй зямлі болей сябруюць з навукай, нават абмежавальнікі росту раслін уносяць, не кажучы ўжо пра дазіраваныя нормы ўгнаенняў у залежнасці ад біялагічнага складу палёў. Убачанае ў Латвіі Мікалай Іванавіч думае пакрыху пераймаць і на мясцовых палетках, спачатку паспрабаваць на эксперыментальным полі. Вось толькі такіх думаючых і нераўнадушных кіраўнікоў, як Шульгат, у айчынным АПК адзінкі, астатнія прывыклі толькі дзейнічаць па камандзе. Можа таму ў раёне і вобласці няшмат паспяховых і фінансава ўстойлівых гаспадарак, з-за чаго мясцовы райаграсервіс закрыў свой цэх перамоткі электрарухавікоў, бо заказчыкі дрэнна разлічваліся за паслугі. Дапамагае калектыву трымацца і іншая няпрофільная дзейнасць, дадатковыя сродкі паступаюць на рахунак ад аўтамабільных перавозак і рамонту палівных насосаў, які асвоіў райаграсервіс.

## Полацкі раён

# Кіпіць праца на будучай ГЭС

■ Чэслаў Якубовіч

**У гэтым годзе падчас паводкі на Заходняй Дзвіне ўзровень вады на рацэ ледзь не дасягнуў гістарычнага максімальнага пад’ёму і падняўся ў рысе Полацка амаль на 11 метраў.**

У самім горадзе сцюдзёныя воды падтапілі тады некалькі жылых дамоў і панадворкаў, а самыя вялікія непрыемнасці ўзніклі на месцы будаўніцтва новай Полацкай гідраэлектрастанцыі. На пляцоўцы будучай ГЭС прарвала вадой 40 метраў насыпанай дамбы, узнік вялікі глыбокі катлаван. Каб справіцца з наступствамі надзвычайнага здарэння, спатрэбілася два месяцы напружанай працы. Аднак гэтыя непрыемнасці засталіся ў мінулым, і на важным для айчыннай энергетыкі аб’екце цяпер пачалася праца ў кругласутачным рэжыме ў 3 змены і без выхадных. Аднак не забыліся і пра інцыдэнт мінулай вясной, гідрографы папярэдзілі, што станцыі трэба пераджыць мінімум яшчэ дзве веснавыя паводкі. Верхавая перамычка аб’екта была дадаткова ўмацавана. Асноўныя ж работы актыўна распачаліся на ўзвядзенні гідравузла ГЭС. У вышыню ён будзе роўны сучаснаму 9-павярховаму дому, а значная частка канструкцыі – знаходзіцца пад вадой. Адначасова больш сотні насосаў адкачваюць падземныя воды, якіх тут багата ў русле ракі. Каб справіцца з гэтай праблемай, паблізу вёскі Лучно прабураць і 8 новых свідравін, каб глыбінныя пласты вады не перашкаджалі будаўнікам у катлаване. Аб’ёмы ж саміх работ па ўзвядзенні ГЭС на Дзвіне ўражваюць: аднаго цэменту спатрэбіцца штомесяц выкарыстаць у аб’ёме 60 спецыяльных вагонаў-цэментавозаў. Дарэчы, гэта – першая такая буйная будоўля на галоўнай рацэ вобласці: тут раней здалі самы высокі ў краіне мост ля горада Верхнядзвінска.

## Пастаўскі раён

# Музей пашырае межы

■ Кастусь Александровіч

**Да нядаўняга часу адным з самых прыгожых і наведваемых месцаў у Паставах з’яўляўся знакаміты Палац Тызенгаўза, але меў адзін невялікі пакой пад музей.**

У далёкім мінулым гэты велічны будынак быў значным культурным і нават навуковым цэнтрам Вялікага Княства Літоўскага. Дзякуючы таму, што раён мае вельмі цесныя партнёрскія сувязі з літоўскім горадам-пабрацімам Рокішкіс у рамках трансгранічнага супрацоўніцтва нарадзіўся праект стварэння ў Палацы музея спадчыны гэтага славутага роду. Першапачаткова па гранту Еўрасаюза беларуская доля складала 251 тысячу еўра, а калі гэтых сродкаў не хапіла, то літоўцы пералічылі на праект яшчэ 65 тысяч еўра са сваіх сэканомленых сродкаў. У мінулым годзе пачаўся ў асноўных падвальных памяшканнях Палаца рамонт, а цяпер там завяршаецца стварэнне філіяла раённага гісторыка-краязнаўчага музея. Асноўная экспазіцыя прысвечана аднаўленню гістарычнай спадчыны графа Антонія і яго ўнучатага пляменніка Канстанціна Тызенгаўза (1786-1853). Калісьці ў Паставах дзейнічалі арніталагічны музей, выдатная бібліятэка, балетная школа, цудоўная мастацкая галерэя з арыгіналамі работ Габена, Рэмбрандта, Дзюрэра і іншых сусветна вядомых творцаў. Канешне, за стагоддзі многія каштоўнасці страчаны, але копіі шэрагу карцін і малюнкаў самога К. Тызенгаўза ў новым філіяле музея будуць. Плошчаў там дастаткова, каб паказаць з запаснікаў і шмат экспанатаў пра гісторыю рэгіёна. Дарэчы, з цягам часу Палац поўнасцю стане музейным цэнтрам, калі райбальніца дабудуе сабе новы корпус і пераселіць адсюль шэраг сваіх медкабінетаў і палат.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 24.10.13 | | | | Пятніца 25.10.13 | | | | Субота 26.10.13 | | | | Нядзеля 27.10.13 | | | | Пнд.28.10.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +9 | +12 | +14 | +12 | +8 | +7 | +10 | +7 | +5 | +6 | +10 | +12 | +12 | +13 | +14 | +10 | +11 | +12 | +12 |
| Ціск | 747 | 745 | 745 | 747 | 749 | 749 | 750 | 752 | 752 | 749 | 746 | 743 | 742 | 741 | 742 | 743 | 741 | 738 | 739 |
| Вільготнасць | 87 | 94 | 91 | 91 | 85 | 90 | 73 | 87 | 95 | 91 | 91 | 91 | 96 | 95 | 83 | 89 | 91 | 95 | 87 |
| Вецер м/сек | 7 Пд | 4 Пд-З | 4 Пд-З | 4 З | 5 З | 4 З | 5 З | 4 З | 3 Пд-З | 3 Пд | 5 Пд | 6 Пд-З | 5 Пд-З | 4 З | 5 З | 3 Пд-З | 5 Пд-З | 4 Пд-З | 5 З |

# Аб самым надзённым

## КРАІНА ЯШЧЭ БЛІЖЭЙ ПАДЫШЛА ДА ЭКАНАМІЧНАГА АБВАЛУ І ДА МАГЧЫМАЙ ЧАРГОВАЙ ДЭВАЛЬВАЦЫІ СВАЁЙ НАЦВАЛЮТЫ




■ Аляксандр Цішкевіч

**Нашы тавары сталі меней купляць у свеце і найперш у суседняй Расіі. У выніку сёлета сальда знешняга гандлю, па дадзеных статыстыкі, зменшылася на 4,2 млрд. долараў. Сказваецца ўсё ж фактар уступлення РФ у Сусветную гандлёвую арганізацыю, канкурэнтназдольнасць беларускай прадукцыі пачала падаць. Нас з рынкаў выцясняюць тыя ж кітайцы, не кажучы ўжо пра заходніх і азіяцкіх вытворцаў высокатэхналагічнай і якаснай прадукцыі па навейшых тэхналогіях, за якімі цяжка ўгнацца.**

“Нікому не дазволю душыць насельніцтва на фоне праблем і складанасцей, якія сёлета складваюцца ў краіне”, – паабяцаў у пачатку месяца кіраўнік Беларусі падчас чарговай нарады на вышэйшым узроўні. Беларускі лідар яшчэ запатрабаваў, як паведаміла прэзідэнцкая прэс-служба, спыніць хлусню пра разгрузку складоў і адначасова рост цэн. У супрацьлеглым выпадку для асобных членаў урада было паабяцана змяніць службовыя кабінеты нават на камеры. Зыходзячы з жыцейскага вопыту, упэўнены, для простых людзей гэтыя словы азначаюць, што зноў будзем перажываць няпростыя часы.

Тым часам пачала сваю працу чарговая восеньская сесія беларускага парламента, але не было яснасці наконт нават выканання дзяржбюджэту на бягучы год. Аднак быў прыняты аператыўна 10 кастрычніка план сумесных дзеянняў Савета Міністраў і Нацыянальнага банка Беларусі па структурным рэфармаванні і павышэнні канкурэнтназдольнасці айчыннай эканомікі. Такі дакумент з’явіўся на свет Божы вельмі невыпадкова, бо беларусы ўжо былі застрашаны перспектывай новага аслаблення нашага рубля. А эксперты і незалежныя эканамісты сцвярджаюць, што яшчэ ў маі мінулага 2012 года ў прамысловасці Беларусі пачаўся спад вытворчасці.

Такая непрыемная тэндэнцыя захавалася і сёлета яна працягваецца. Горш таго ў гэтым годзе пагоршыўся стан спраў і ў сельскай гаспадарцы, з пачатку года на 2,8% скарацілася вытворчасць прадукцыі палёў і ферм. Нават малака меней надаілі на 1,9 %, хоць пагалоўе кароў на фермах, на якіх праводзілася маштабная рэканструкцыя, вырасла на 3,6 %. Усе ведаюць пра істотны недабор збожжа ў памеры каля 2 млн. тон (скарачэнне на 20 % у параўнанні з мінулым годам) найперш з-за асаблівасцей надзвычай халоднай і працяглай зімы. А яшчэ беларусаў напаткала новая бяда – афрыканская чума свіней і, нягледзячы на ўсе намаганні, пагалоўе іх скарацілася на 4 %.

Не дзіўна, што пагоршыўся фінансавы стан нашых калгасаў. Іх сумарныя даўгі ў 2 разы перавышаюць аб’ёмы выручкі ад вырашчанай прадукцыі ( у 2012 годзе – у 1,5 разы). Фактычна айчынны аграпрамысловы комплекс – па-сутнасці банкрут (у яго было ўкладзена, між іншым, да 50 млрд. долараў). А на выхадзе мы маем у магазінах і на рынках дарагія прадукты харчавання, а агульная крэдыторская запазычанасць беларускіх сельгаспрадпрыемстваў перавышае дэбіторскую ў 11,5 разоў. І гэта яшчэ не апошнія эканамічныя цяжкасці.

Нашы тавары сталі меней купляць у свеце і найперш у суседняй Расіі. У выніку сёлета сальда знешняга гандлю, па дадзеных статыстыкі, зменшылася на 4,2 млрд. долараў (альбо на 6,5 % ВУП). Сказваецца ўсё ж фактар уступлення РФ у Сусветную гандлёвую арганізацыю, канкурэнтназдольнасць беларускай прадукцыі пачала падаць. Нас з рынкаў выцясняюць тыя ж кітайцы, не кажучы ўжо пра заходніх і азіяцкіх вытворцаў высокатэхналагічнай і якаснай прадукцыі па навейшых тэхналогіях, за якімі цяжка ўгнацца. На фоне змяншэння беларускага экспарту стала меней паступаць у Беларусь заробленай замежнай валюты і штомесяц “худзеюць” золатавалютныя рэзервы дзяржавы.

З пачатку года такі паказчык зменшыўся на 1 млрд. долараў. Самае сумнае, што калі не ўдасца спыніць гэтыя негатыўныя з’явы, то можа наступіць новы абвал нацыянальнай валюты, бо мы яшчэ вымушаны шмат плаціць па ранейшых даўгах. У Мінфіне Беларусі пацвердзілі, што да канца 2013 года нам трэба выплаціць па ўзятых абавязацельствах больш за 800 млн. USD. Сума немаленькая і, вядома ж, ціснe на бюджэт, прымушае перайсці паўсюдна на рэжым строгай эканоміі сродкаў. Афіцыйна аб’яўлена, што расходы ад Мінска да ўскраін жорстка абмяжуюць.

Аднак вялікае пытанне, ці выратуе гэта нашу краіну? Размова ідзе пра непапулярныя меры, замаруджванне росту даходаў і пенсій насельніцтва. Зразумела, будуць плаўна зніжаць курс беларускага рубля да адзнакі 9500 за долар, але гэта паўбяды. Дасведчаныя спецыялісты-эканамісты ведаюць, што Беларусь прайшла ўжо паўдарогі да новай дэвальвацыі сваёй нацвалюты.

Нагадаем, як рубель моцна абваліўся ў пачатку 2009 і затым на працягу цяжкога 2011 гадоў. Калі рэцэсію эканомікі не ўдасца спыніць і нашы золатавалютныя рэзервы знізяцца ў бліжэйшы час яшчэ на 1-2 мільярды долараў (цяпер яны па ацэнцы МВФ 7,387 млрд. USD), то будзе абвал. Гэта мы ўжо праходзілі і перажылі шалёны рост цэн, ажыятаж пры скупцы тавараў. Нічога не застаецца, як цярпець, не панікаваць на падыходзе зімовых халадоў і спадзявацца, што можа на гэты раз такое ліха нас абміне.

## Дзень за днём

**Айчынная эканоміка ўсё болей апускаецца ў рэцэсію, у прамысловасці і ў АПК не ўдаецца пераадолець спад. У ліку больш 80 прадпрыемстваў кіраўніцтва Беларусі рашылася прадаць нават гіганты індустрыі Мазырскі НПЗ, "Гарызонт" і БАТЭ. Валютная выручка краіны скарацілася ўжо на 6 мільярдаў долараў , а рост заробкаў апярэдзіў прадукцыйнасць працы на 17, 3 % пры інфляцыі з пачатку года 10 %. Беларусам паабяцалі зрабіць больш жорсткім размеркаванне выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў па шэрагу спецыяльнасцей. З пачатку года інтэрнэт-аўдыторыя вырасла ў краіне яшчэ на 12,8 % і дасягнула 4,85 мільёны карыстальнікаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Генсек НАТО А. Расмуссен адмовіўся ад ваеннага рашэння вострага канфлікту ў Сірыі, дзе ўжо налічваецца больш 100 тысяч ахвяр, заклікаў яе ўрад і апазіцыю да дыялогу ў Жэневе.

**Украіна.** Краіна гатова, як заявіў прэм'ер-міністр М.Азараў, поўнасцю адмовіцца ад закупак расійскага газу, калі Крэмль не перагледзіць сваю варожую цэнавую палітыку.

**Англія.** Урад даў згоду карпарацыі з Кітая CGN пабудаваць на тэрыторыі краіны новай АЭС у горадзе Сомерсет, кошт кітайскіх інвестыцый можа скласці да 22 мільярдаў долараў.

**Венесуэла.** Пасля смерці камандантэ Уга Чавеса рост цэн па краіне за год перавысіў 49 %, абвалілася і нацвалюта балівар, людзі ўжо не могуць абмяняць гэтыя грошы на долары.

**Расія.** Пасля забойства маладога масквіча і масавых хваляванняў паліцыя затрымала каля 400 рускіх і да 1200 мігрантаў з дзяржаў СНД, улады закрылі базу гародніны ў Бірулёве.

**Кітай.** Адразу 6 функцыянераў кампартыі атрымалі ад 4 да 14 гадоў турмы за катаванні халоднай вадой аднапартыйца, пасля чаго памёр галоўны інжынер завода ў Веньчжоу.

**Эквадор.** Прэзідэнт Рафаэль Карэя прыгразіў пайсці ў адстаўку, калі кангрэс легалізуе ў краіне аборты, хоць тэрмін яго паўнамоцтваў заканчваецца ў 2017 годзе.

**Ізраіль.** Армейскія спецслужбы выявілі падземны тунель з сектара Газа даўжынёй 1,7 кіламетра, якім карысталіся мусульманскія экстрэмісты для нападзенняў на мірных жыхароў.

**Швецыя.** У ходзе нобелеўскага тыдня кароль у Стакгольме ўручыў Нобелеўскія прэміі па 1,2 мільёна долараў кожная лаўрэатам за 2013 год па хіміі, літаратуры, медыцыне і фізіцы.

**КНДР.** За 2 гады пры ўладзе новы правадыр Кім Чэн Ын змяніў ужо 97 з 218 самых высокапастаўленых чыноўнікаў правячай кампартыі, урада і сярод ваенных генералаў.

**Палесціна.** Міжнародныя эксперты з трох краін свету пацвердзілі, што былы кіраўнік мясцовай аўтаноміі Ясір Арафат памёр у 2004 годзе ў выніку атручэння палоніем.

**Расія.** Краіна стала адным з сумніўных лідараў у свеце па расслаенні насельніцтва, хоць колькасць доларавых мільянераў знізілася за апошні год на 13,4 % да 84 тысяч расіян.

**Францыя.** Сусветна вядомы рэжысёр А. Канчалоўскі вечарам не справіўся з кіраваннем аўто і трапіў у ДТЗ, яго 14-гадовую дачку Марыю даставілі ў рэанімацыю бальніцы.

**В'етнам.** Сотні жылых дамоў былі моцна пашкоджаны тайфунам у цэнтральных правінцыях краіны, улады эвакуіравалі ў бяспечныя месцы каля 130 тысяч чалавек.

**Украіна.** У краіне пачаўся апошні прызыў на ваенную службу, далей яе армія будзе фарміравацца па кантрактным прынцыпе і стане прафесійнай акрамя ўнутраных войск.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** У Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны Беларусі не падтрымалі намеры прэзідэнта аб грандыёзных (да 10 тысяч долараў) выплатах на нараджэнне дзіця, бо няма такіх магчымасцей.

**Мазыр.** Эксперты падлічылі, што пакет акцый мясцовага НПЗ для продажы інвестару на аўкцыёне можа каштаваць 1 мільярд долараў , а рыначны кошт усяго завода 1,7 мільярда .

**Салігорск.** Да радасці калектыва ААТ "Беларуськалій" расійскі Сбербанк прадоўжыў з улікам няпростай эканамічнай сітуацыі на прадпрыемстве тэрмін крэдыту яшчэ на 1 год.

**Гродна.** Замест будаўніцтва новага вытворчага корпуса на ААТ "Гродна Азот" вядуцца адны размовы, а прадпрыемства выдзеліла на падтрымку калгасаў-банкрутаў 1 мільярд долараў.

**Бяроза.** КДБ спыніў дзейнасць міжнароднай злачыннай групы, два яе члены, мясцовыя прадпрымальнікі ўвезлі ў Беларусь 200 разабраных грузавікоў з дапамогай нашай мытні.

**Гомель.** У абласным цэнтры стала цяжка знайсці здымную кватэру, хоць яшчэ 2 гады назад аднапакаёўку з мэбляй можна было арандаваць тут нават за 100 долараў у месяц.

**Мінск.** У адпаведнасці з прынятым сумесным радыкальным антыкрызісным планам урад і Нацыянальны банк Беларусі зноў вырашылі звярнуцца да праграмы ўзаемадзеяння з МВФ.

**Барысаў.** На заводзе паблізу горада пачаўся выпуск новай трэцяй мадэлі кітайскіх міні-красавераў гарадскога тыпу LC Crocs, у продаж яны паступяць у пачатку 2014 года.

**Шклоў.** Пракуратура Магілёўскай вобласці распачала крымінальную справу па факце крадзяжу 202 мільёнаў рублёў падчас работ па мадэрнізацыі папяровай фабрыкі "Спартак".

**Мазыр.** Двойчы на працягу тыдня ў калгасе "Прыпяць" загараліся новыя зернесушылкі вытворчасці «Лідсельмаша», на Гомельшчыне было зафіксавана 5 падобных пажараў КЗС.

**Лельчыцы.** Міліцыя затрымала двух 22-гадовых непрацуючых хлопцаў, якія забілі 31-гадовага свайго земляка, жыхара раённага цэнтра, калі ён прадаў за 4,8 тысяч долараў іншамарку.

**Мінск.** Калегія Мінкульта РБ вырашыла на трэць скараціць штат супрацоўнікаў Інстытута культуры Беларусі, на 25 % - літаратурных музеяў Якуба Коласа і Янкі Купалы.

**Брузгі.** У рускага, які жыве пастаянна ў Германіі, канфіскавалі яго БМВ 2008 года выпуску за спробу штурму дзяржграніцы з грузам 280 пачак кантрабандных цыгарэт і аштрафавалі.

**Гомель.** У СШ № 34 аб'явілі набор у першы ў Беларусі каталіцкі клас, ён будзе адкрыты з новага навучальнага года, у горадзе дагэтуль былі толькі праваслаўныя і іўрэйскія класы.

**Барысаў.** Пасля 6 гадоў паспяховай працы ФК БАТЭ пакінуў яго галоўны трэнер Віктар Ганчарэнка, які ўзначаліў адзін з вядучых клубаў расійскай прэм'ер-лігі "Кубань".

# У Беларусі даражэюць паслугі ДАІ



■ БЕЛТА

**У Беларусі выраслі цэны на некаторыя паслугі, якія аказваюцца Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыяй. Такое рашэнне змяшчаецца ў пастанове Міністэрства эканомікі ад 30 верасня 2013 года № 71, афіцыйна апублікаваным на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе карэспандэнт БЕЛТА.**

У прыватнасці, выезд супрацоўніка ДАІ ў навучальную арганізацыю для прыёму кваліфікацыйнага іспыту на правы кіравання механічным транспартным сродкам, правядзення заняткаў па правілах дарожнага руху абыдзецца па тарыфнай стаўцы на ўзроўні Br30 тыс. у гадзіну. Прадастаўленне аўтадрома для навучання ваджэнню (на аўтамабілі ўладальніка) каштуе з гэтага часу Br9,7 тыс. у гадзіну. Выдача камплекта копій дакументаў, якія паслужылі падставай для рэгістрацыйных дзеянняў у дачыненні да транспартнага сродку, будзе каштаваць Br15 тыс., а камплекты копій матэрыялаў справы аб адміністрацыйным правапарушэнні – Br20 тыс.

Удзел супрацоўніка ДАІ ў пасяджэннях прыёмных камісій і прыёмачных, кваліфікацыйных і іншых выпрабаваннях транспартных сродкаў, складовых частак іх канструкцыі і дадатковага абсталявання ацэнена ў Br100 тыс. Суправаджэнне аўтамабілем ДАІ цяжкавагавых або буйнагабарытных транспартных сродкаў, небяспечных грузаў пры іх перавозцы ў межах населенага пункта ацэньваецца ў залежнасці ад далёкасці паездкі. На адлегласць да 10 км уключна такая паслуга абыдзецца ў Br75 тыс.; на адлегласць да 20 км уключна - Br115 тыс.; на адлегласць звыш 20 км - Br150 тыс. За суправаджэнне названай катэгорыі транспартных сродкаў па-за межамі населенага пункта кожны кіламетр прабегу аплачваецца па тарыфе ў Br4 тыс. за 1 км. Узгадненне зместу інфармацыі на папяровых і электронных носьбітах, якая закранае сферу забеспячэння бяспекі дарожнага руху, ацэнена ў Br60 тыс. за адзін умоўны друкаваны ліст.

У Беларусі на паслугі, якія аказвае ДАІ, прымяняюцца тарыфы, зацверджаныя пастановай Міністэрства эканомікі ад 8 красавіка 2013 г. № 23, узровень якіх не пераглядаўся са жніўня 2009 года. «Улічваючы стратнасць гэтых паслуг, абумоўленую ростам выдаткаў на іх аказанне па аб'ектыўных прычынах, і прымаючы пад увагу, што гэтыя паслугі не з'яўляюцца сацыяльна значнымі, пастановай Міністэрства эканомікі тарыфы былі павялічаны», – растлумачылі ў Міністэрстве эканомікі.

Дакумент уступае ў сілу праз 5 дзён пасля яго афіцыйнага апублікавання на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З аўкцыёна запланавалі прадаць інвестарам акцыі мясцовых праблемных калектываў завода "Эвістар", прыборабудаўнічага завода, пладоваагародніннага камбіната

**Браслаў.** У райцэнтры прайшлі мерапрыемствы з нагоды 15-годдзя еўрарэгіёна "Азёрны край", якія сабралі дэлегацыі 30 самакіраванняў з Літвы, Латвіі і з раёнаў вобласці.

**Віцебск.** У аўтамабільнай аварыі трагічна загінуў раніцай у росквіце сіл 53-гадовы рэктар дзяржуніверсітэта імя Машэрава, доктар медыцынскіх навук, прафесар А. Саладкоў.

**Мёры.** У райцэнтры прыбралі скульптуру салдата на плошчы загінулых воінаў, помнік стаяў тут з 1959 года і будзе адпраўлены на рэстаўрацыю да 500-годдзя горада ў 2014 г.

**Глыбокае.** На ўрачыстым прыёме ў абласным выканкаме ўручылі ордэн Маці апаратару машыннага даення кароў філіяла "Галубічы" мясцовага мясакамбіната Святлане Гужонак.

**Лёзна.** Да ўрачыстасцей 70-годдзя вызвалення раёна ад гітлераўскіх захопнікаў завяршылі рэканструкцыю коштам 300 млн. руб. мемарыяльнага комплексу "Ціхмянаўская вышыня".

**Дуброўна.** На тэрыторыі раёна супрацоўнікі ДАІ затрымалі адразу дзве аўтамашыны, якія перавозілі кантрабандныя грузы 42 тоны мукі і 500 літраў вадкасці спірту без дакументаў.

**Верхнядзвінск.** На тэрыторыі дэндрапарку мясцовага лясгаса ўпершыню прайшоў лясны фестываль з выставай-конкурсам арыгінальных лавак, ярмаркамі мёду і венікаў для лазні.

**Наваполацк.** На першым паверсе бальніцы сястрынскага догляду вырашылі стварыць гарадскі хоспіс для догляду ва ўтульных палатах да 15 невылечна хворых людзей.

**Віцебск.** У Доме кіно адбылася прэм'ера фільма рэжысёра Ф. Бандарчука "Сталінград", знятага ў фармаце 3D з удзелам мясцовага клуба ваенна-гістарычнай рэканструкцыі.

**Полацк.** Па выніках міжнароднага конкурсу раён прызналі лепшым у намінацыі "турызм" на лепшы праект трансгранічнага супрацоўніцтва на тэрыторыі Усходняй Еўропы.

**Лепель.** Днём ля вёскі Усовікі 28-гадовы жыхар Віцебска выскачыў на "Опелі" на сустрэчную паласу дарогі і загінуў разам з пасажыркай пасля сутыкнення з "Мерседэсам".

**Паставы.** З прызыўнога пункта мясцовага ваенкамата ў складзе зводнай роты адправілі на 10-дзённыя воінскія зборы 22 афіцэраў і 128 салдат і сяржантаў запасу, жыхароў раёна.

**Глыбокае.** У выхадны дзень паблізу райцэнтра 27-гадовы жыхар вёскі Прыпернае на сваёй іншамарцы "БМВ" насмерць збіў 55-гадовага мясцовага веласіпедыста.

**Віцебск.** Стагоддзе "Чорнага квадрата" Казіміра Малевіча адзначылі ў абласным краязнаўчым музеі выставай арт-аб'ектаў і інсталяцый творчага аб'яднання "Квадрат".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# «Праклятыя і забытыя» ў Глыбокім



Мастак Алесь Пушкін (справа) прывёз у Глыбокае карціну «Яўген Жыхар», якую напісаў цягам працы тэлеканала БЕЛСАТ над фільмам «Праклятыя і забытыя». Злева – рэжысёр фільма Антось Цялежнікаў. *Фота Ул. Скрабатуна.*

■ Уладзімір Скрабатун

У Глыбокім адбылася прэзентацыя дакументальнага фільма тэлеканала «Белсат» аб беларускім дэсантным батальёне «Дальвіц» – «Праклятыя і забытыя». Многія з дэсантнікаў былі членамі Беларускай незалежніцкай партыі. Стваральнікі і ўдзельнікі фільма завіталі на сустрэчу з глыбачанамі: рэжысёр Антось Цялежнікаў, аператар Сяргей Краўчук, Вадзім Здаравянкоў, выканаўца ролі Яўгена Жыхара, і яшчэ адзін удзельнік фільма – мастак Алесь Пушкін. Алесь прадставіў і свой уласны твор — партрэт Яўгена Жыхара.

– *Прыехаць у Глыбокае з прэзентацыяй фільма «Праклятыя і забытыя» было нашым самым вялікім жаданнем,*– кажа Антось Цялежнікаў. – *Менавіта тут, паміж Глыбокім і Паставамі, адбываліся значныя падзеі, якія ляглі ў аснову фільма. Звязаныя яны з імем Яўгена Жыхара, апошняга беларускага антысавецкага партызана. Для некага – ён герой, для іншых – крывавы бандыт. Ім можна ганарыцца, а можна ненавідзець. Кожны мае права на сваю ацэнку. Але ён быў, ён стаў легендай!*

– *Яўген Жыхар, скончыўшы дыверсійную школу ў Дальвіцы (Усходняя Прусія), мог бы пасля вайны схавацца на Захадзе, вельмі рызыкоўна было вяртацца на радзіму, але ён, усё ж, вярнуўся,*– працягвае Антось Цялежнікаў. – *Працаваў настаўнікам.*

– *За ім, аднак, прыйшлі... Пашанцавала збегчы. Вымушаны быў сысці ў падполле. Стварыўшы невялікі антысавецкі партызанскі атрад, пайшоў супраць вялікай савецкай імперыі – за незалежную Беларусь!*

– *Жыхары Глыбоччыны і Пастаўшчыны перахоўвалі Жыхара і яго супольнікаў: давалі прытулак, адпачынак, харчаванне...*

– *Хто перашкаджаў камусьці з мясцовых жыхароў патэлефанаваць міліцыянтам у Глыбокае ці Варапаева (цэнтр Дунілавіцкага раёна), або Паставы выдаць месца яго знаходжання? І ўлады гэтага патрабавалі! Але ніхто не патэлефанаваў, не выдаў, нават рызыкуючы ўласнай свабодай. Людзі такім чынам помсцілі савецкай уладзе за расстрэлы і высылкі ў Сібір сваіх блізкіх і родных.*

*Антось Цялежнікаў выказаў асаблівую падзяку глыбачанам, якія актыўна спрычыніліся да стварэння фільма «Праклятыя і забытыя». Іх набярэцца хіба што не меней за два дзясяткі. Гэта не толькі валанцёры, але і жыхары Глыбоччыны, сведкі пасляваенных падзеяў, якія апавядалі аб гэтым у аб'ектыў кінакамеры.*

Нагадаем, што здымкі фільма ў нашым краі адбываліся ў Глыбокім, Дзеркаўшчыне, Квачах, Сокалаве, Верхнім, а таксама Карповічах і Верацеях на Пастаўшчыне.

На тэму пасляваеннага беларускага антысавецкага супраціву накладзенае табу. А людзі, якія ў ім бралі ўдзел – праклятыя і забытыя!

– *«Тэлеканал «Белсат» варта было стварыць хаця б дзеля таго, каб з'явіліся такія фільмы, як «Праклятыя і забытыя» пра Беларускую Незалежніцкую Партыю»,*– адзначыў блогер Алесь Чайчыц з Масквы.

# Мастацкую школу імя Язэпа Драздовіча адкрыюць пасля рамонту ў Глыбокім

■ Кацярына Сушко, *Край.by*

**Урачыстая цырымонія адкрыцця запланавана на канец кастрычніка. Дакладная дата будзе вядомая пазней.**

Пра гэта паведаміла дырэктар мастацкай школы Жана Балабуева.

– Наша школа была зачынена на капітальны рамонт 1 сакавіка 2013 года. З гэтага часу да канца мінулага навучальнага года нашы вучні займаліся ў будынку гарадскога Дома культуры. Новы навучальны год дзеці пачалі ў адрамантаваным памяшканні, – распавяла суразмоўніца.

Па словах Жаны Балабуевай, рамонт школы яшчэ працягваецца, цяпер ідзе добраўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі. Афіцыйнае адкрыццё адрамантаванай школы адбудзецца ў канцы кастрычніка. Дырэктар школы таксама адзначыла, што падчас капітальнага рамонту ў мастацкай школе былі замененыя вокны, дзверы, дах, падлогавае пакрыццё, увесь будынак быў уцеплены. Побач са школай была пабудаваная новая кацельня.

– Плануецца, што ўрачыстая цырымонія пройдзе ў форме невялікага тэатралізаванага прадстаўлення, дзе, магчыма, з'явіцца і сам Язэп Драздовіч. З ганаровых госцяў на цырымоніі адкрыцця школы мы чакаем старшыню Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Андрэйчанку, – заўважыла Жана Балабуева.

«Я вельмі задаволеная рамонтам нашай школы. Да ўрачыстай цырымоніі адкрыцця таксама будзе прымеркавана і выстава дзіцячых работ у стылі Язэпа Драздовіча», – дадала дырэктар.

# Увайшоў у незамкнёныя дзверы, абакраў пенсіянера

Не пакідайце дзверы незамкнёнымі, нават калі вы дома. Пра гэта нельга забывацца ні ў горадзе, ні ў вёсцы. Так у Глыбокім 17 кастрычніка ахвярай уласнай няўважлівасці стаў пенсіянер. У незамкнёныя дзверы яго дома зайшоў рабаўнік і ўдкрытую скраў у гаспадара 1,7 млн. рублёў. На шчасце, міліцыя спрацавала спрытна і рабаўнік ужо затрыманы.

***westki.info***

■ Уладзімір Скрабатун

# Не стала Яўгена Уладзімірава

**11 кастрычніка на 84-м годзе жыцця раптоўна памёр Яўген Уладзіміравіч Уладзіміраў, кандыдат тэхнічных навук, дацэнт, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій, навуковы супрацоўнік Аб'днанага інстытута праблем інфарматыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (АІПІ НАН Беларусі), адказны сакратар.**

Я.У.Уладзіміраў узнагароджаны двума бронзавымі (1974, 1980) і двума срэбнымі (1969, 1976), медалямі ВДНГ СССР. Ён – лаўрэат прэміі імя С.І. Мосіна (1978). Быў занесены на Дошку пашаны інстытута (1980, 2007).

Вядомыя яго манаграфіі на тэмы: «Аўтаматызацыя тэхнічнага нармавання працы на металарэзных станках з дапамогай ЭВМ», «Аўтаматызацыя з дапамогай ЭВМ разліку рэжымаў рэзання і нормаў часу пры аднаінструментальнай апрацоўцы дэталяў на металарэзных станках», убачылі свято лабараторны практыкум для студэнтаў БПІ па курсе «Аўтаматызацыя праектавання тэхналагічных працэсаў», шэраг брашур, распрацовак дзяржаўных і галіновых стандартаў у вобласці САПР, кіраўнічых і метадычных матэрыялаў Дзяржстандарту СССР – усяго 120 навуковых прац.

З 1999 года навуковец працуе ў лабараторыі мадэлявання тэхналагічных працэсаў АІПІ НАН Беларусі. На працягу некалькіх гадоў узначальваў спорткамітэт і абіраўся членам групкама АН БССР.

Яўген Уладзіміраў быў не толькі сталым чытачом газеты "Вольнае Глыбокае" ледзьве не з першых яе нумароў, але і вялікім патрыётам Глыбокага, дзе ён і нарадзіўся 3 кастрычніка 1930 года.



Яўген Уладзіміраў з унукам Уладзіславам. Глыбокае, жнівень 2012 г. *Фота Ул. Скрабатуна.*

Ён штогод наведваў Глыбокае, сустракаўся са сваякамі. Год таму ўпарадкаваў магілу сваіх бацькоў на цвінтары Копцеўка, паставіў новы помнік. Штораз прыязджаў у Глыбокае з Мінска сам, кіруючы "Масквічом". Чалавек быў даўно на пенсіі, але стала працаваў у Нацыянальнай акадэміі навук ледзьве не да апошніх дзён свайго жыцця. Быў вельмі запатрабаваным навукоўцам.

Яўген Уладзіміраў – сын Уладзіміра Уладзімірава, які ў 1930-ыя гг быў выдаўцом шматлікіх глыбоцкіх паштовак. Паштоўкі Уладзімірава знаходзяцца ў шматлікіх калекцыях філакартыстаў па ўсяму свету. Не рэдка выстаўляюцца на інтэрнэтаўкцыёны. Але гэта, як кажуць, – зусім іншая гісторыя.

З Яўгенам Уладзіміравым аўтар гэтых радкоў упершыню сустрэўся ў 1998 годзе. Тады выйшла кніга аўтара гэтых радкоў "Глыбокае на старых паштоўках". З гэтай нагоды ў газеце"Літаратура і мастацтва" з'явіўся артыкул. Спадар Яўген прыехаў у Глыбокае з жонкай. Пазнаёміліся. Доўга гутарылі аб глыбоцкіх паштоўках. Аб гісторыі Глыбокага. Аб лёсе Беларусі. Памятаю, ён сказаў: "Будзеш у Мінску – заходзь да мяне! У мяне, між іншым, на сцяне кватэры – бел-чырвона-белы сцяг".

Згадваю цяпер нашую апошнюю размову напрыканцы лета гэтага года ў Глыбокім.

– Не пазнаю возера Вялікае,– шкадуе Яўген Уладзіміравіч. – Зарастае трыснягом, берагі кустоўем, зменшаецца плошча, навокал смецце. Не разумею, навошта на яго беразе паставілі аўтабазу, ПМК, лесапілку, і шмат яшчэ чаго? Усялякі друз гадамі ссоўвалі бульдозерамі ў возера. Не павінна гэтага быць і стаяць на беразе возера! Тут, на гэтым месцы, мусіў быць вялікі парк і пляж – зона адпачынку! Не было ў нас ніколі за савецкім часам талковага гаспадара горада… Дзякуй цяперашнім новым уладам, што, нарэшце, пачалі ўпарадкаваць горад.

Здаецца, гэтая размова была ўчора… Вось, думаю, ізноў паразмаўляем праз Скайп…

Разам з Яўгенам Уладзіміравым сышла цэлая эпоха – Глыбокае 1930-х, якое ён добра памятаў, а яго бацька Уладзімір Уладзіміраў занатаваў яго на сваіх паштоўках.

Жыццё – кароткае, радзіма – вечная!




Кнігарня Уладзіміравых на вул. Замкавай у Глыбокім, якая знаходзілася насупраць тагачаснай і цяперашняй пошты. На фоне крамы – Уладзіміравы: бацькі і дзеці. 1930-я гг.



Кліменцій Кожан, краязнаўца, выпускнік Глыбоцкай педвучэльні. м. Германавічы.

# Іосіфу Навумчыку – 75 гадоў

Споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння Іосіфа Адамавіча Навумчыка, вядомага грамадскага дзеяча, старшыні Віцебскай абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы. Нарадзіўся ён 21 кастрычніка 1938 года ў вёсцы Яцавічы Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Пасля вайны паступіў у першы клас пачатковай школы. Яго вучыла жонка роднага брата Максіма Танка. Яна прывіла сваім вучням любоў да беларускай мовы, заахвочвала іх пісаць вершы, апавяданні. Пасля заканчэння сямі класаў Іосіф Навумчык у 1952 годзе паступіў у Пастаўскае педвучылішча, але яно ў хуткім часе было закрыта. Яго навучэнцы прадоўжылі вучобу ў Глыбоцкім педвучылішчы, але і яно летам 1955 года таксама было закрыта. Усе навучэнцы 1-3 курсаў былі пераведзеныя ў Полацкае і Лепельскае педвучылішчы. Іосіф Навумчык атрымаў дыплом настаўніка пачатковай школы ў 1956 годзе.

І.А.Навумчык працаваў на камсамольскай і партыйнай рабоце нашай вобласці, займаў адказныя пасады. У савецкі час рэдка прыходзілася карыстацца беларускай мовай. Тады на ўсіх афіцыйных мерапрыемствах ужывалася руская мова. Тым не менш Іосіф Адамавіч пры нагодзе гаварыў па-беларуску. Намеснік старшыні Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ Юрась Бабіч расказвае пра першае публічнае выступленне І.А.Навумчыка па-беларуску. Было гэта ў літоўскім Швянчонісе на ўрачыстым сходзе, прысвечаным 20-годдзю камсамола Літвы, у чэрвені 1960 года. У той час І.А.Навумчык працаваў першым сакратаром Пастаўскага райкама камсамола. Усе прысутныя апладысментамі віталі прамоўцу з Беларусі. "Няёмка мне было выступаць па-руску, бо літоўцы ўсе гаварылі на сваёй мове, а няўжо ж мы горшыя"– сказаў Іосіф Адамавіч[1].

"У час сваёй працы ў Віцебскім абкаме КПБ І.А. Навумчыку прыходзілася арганізоўваць сустрэчы з пісьменнікамі, паэтамі. Ён не раз суправаджаў падчас наведвання Віцебшчыны Петруся Броўку, Івана Шамякіна, якія балатаваліся ў якасці дэпутатаў ў Вярхоўны Савет СССР.



Іосіф Адамавіч Навумчык

Запомніліся сустрэчы з Генадзем Бураўкіным, Рыгорам Барадуліным, Нілам Гілевічам, Уладзімірам Караткевічам, Еўдакіяй Лось, Васілём Быкавым, Сяргеем Законнікавым і іншымі прадстаўнікамі беларускай літаратуры.

І.А.Навумчык пастаянна наведваў партыйныя і творчыя сходы ў Віцебскім драматычным тэатры, дапамагаў вырашаць мастацкія і жыццёвыя праблемы артыстаў.

У 1986-1987 гадах Іосіф Адамавіч знаходзіўся ў Афганістане. Ён прасіў калег прысылаць яму газету "Віцебскі рабочы", каб ведаць што адбываецца ў Беларусі.

У час перабудовы пры ўдзеле І.А. Навумчыка былі арганізаваны курсы беларускай мовы ў Віцебску. Ён часта выступаў у сельскіх раёнах перад творчай інтэлігенцыяй. Падтрымаў ідэю стварэння Таварыства беларускай мовы, быў дэлегатам Устаноўчага з'езда ТБМ у 1989 годзе. У студзені 1990 года быў прыняты Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Пры непасрэдным удзеле І.А. Навумчыка ў Віцебскім абкаме КПБ быў распрацаваны план мерапрыемстваў па рэалізацыі Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы. І.А. Навумчык імкнуўся ўсімі сродкамі спрыяць пашырэнню сферы выкарыстання беларускай мовы.

У 1997 годзе была створаная Віцебская абласная арганізацыя Таварыства беларускай мовы. Па прапанове старшыні ТБМ Генадзя Бураўкіна Іосіф Адамавіч Навумчык быў абраны старшынёй абласной арганізацыі ТБМ. Ён арганізуе творчыя сустрэчы, падтрымлівае сувязі з мясцовымі суполкамі ТБМ, гуртуе вакол сябе аматараў роднага слова, дапамагае сваімі парадамі.

Хочацца пажадаць Іосіфу Адамавічу Навумчыку добрага здароўя, даўгалецця, новых здзяйсненняў у яго нястомнай грамадскай працы на карысць Бацькаўшчыны.

[1] ***"Наша слова"**, №42 ад 16.10.2013*

# З 1 лістапада павышаюцца пенсіі на 5,1%

**У Беларусі з 1 лістапада павышаюцца пенсіі. Адпаведны ўказ № 478 «Аб павышэнні пенсій»**

Аляксандр Лукашэнка падпісаў 21 кастрычніка.

З 1 лістапада 2013 года будзе праведзена карэкціроўка фактычнага заробку пенсіянераў і пераразлік працоўных пенсій.

У выніку працоўныя пенсіі грамадзян павялічацца ў сярэднім на 5,1%.

*БелТА*

# Вызначыліся мацнейшыя шашысты сярод працоўных калектываў Глыбоччыны

**Яўген Самсонаў**

**У рамках кругла-гадзічнай спартакіяды 20 кастрычніка ў будынку Глыбоцкага дзяржпрафліцэя прайшоў шашачны турнір сярод працоўных калектываў Глыбоцкага раёна.**

Пераможцам сярод жанчын у асабітым заліку стала Вольга Ціхан (АП №16), другое месца заняла Наталля Тумчонак (ЖКГ), трэцяе месца Наталля Худабасішава (ЦРБ).

Сярод мужчын у асабістым заліку на другой дошцы абсалютным пераможцам стаў Яўген Самсонаў (ЖКГ), Іван Занько (ЦРБ) – 2-е месца, 3-е месца – Сяргей Цыганкоў (СПМК-26).



На першай дошцы пераможцам стаў Уладзімір Дрэмач, Ілья Цыганкоў (Ліцэй) – 2 месца і Зміцер Лук'янёнак (ЖКГ) – на 3 месцы.

У камандным заліку з вялікім адрывам (23 ачкі) пераможцамі сталі камунальнікі. Гаспадары турніру Ліцэй (17 ачкоў) – на другім месцы. Каманды СПМК-26, АП №16 і ЦРБ набралі аднолькавую колькасць ачкоў – 12, але па выніку першай дошкі трэцім прызёрам прызнаныя будаўнікі.

# У Беларусі 98% спраў аб банкруцтве разглядаюцца ў адносінах прыватных арганізацый

Па дадзеных на 1 кастрычніка 2013 гады, у вытворчасці гаспадарчых судоў Беларусі знаходзілася 1.710 спраў пра эканамічную нежыццяздольнасць (банкрутства), з іх пра эканамічную нежыццяздольнасць арганізацый прыватнай формы ўласнасці — 1.676, гэта значыць 98% ад агульнай колькасці спраў дадзенай катэгорыі, паведамілі ў Вышэйшым гаспадарчым судзе.

У вытворчасці гаспадарчага суда Мінска знаходзіцца 48,4% (828 спраў) ад агульнага ліку спраў пра эканамічную нежыццяздольнасць (банкрутства). Дадзены адсотак у большасці сваім таксама фармуецца за кошт спраў у адносінах арганізацый прыватнай формы ўласнасці, адзначылі ў ВГС.

На 1 кастрычніка бягучага года ў вытворчасці гаспадарчых судоў было 34 справы пра эканамічную нежыццяздольнасць (банкрутства) арганізацый, якія маюць значэнне для эканомікі і сацыяльнай сферы краіны. Да іх адносяцца дзяржаўныя арганізацыі, арганізацыі, якія маюць частку дзяржаўнай уласнасці ў статутным фондзе, горадаўтваральныя і прыраўнаваныя да іх арганізацыі, бюджэтаўтваральныя, сістэмаўтваральныя арганізацыі.

Колькасць спраў, па якіх прынята рашэнне аб банкрутстве з ліквідацыяй, больш колькасці спраў, па якіх вынесена рашэнне пра эканамічную нежыццяздольнасць з санацыяй, у 1,7 раза.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# Беларусь сумесна з ЮНІСЕФ правядзе ў 2014 годзе канферэнцыю па ўмацаванні інстытутаў па правах дзіцяці

Беларусь мае намер правесці сумесна з Дзіцячым фондам ААН (ЮНІСЕФ) у 2014 годзе ў Мінску рэгіянальную канферэнцыю па пытаннях умацавання нацыянальных інстытутаў па правах дзіцяці. Аб гэтым заявіла намеснік начальніка ўпраўлення глабальнай палітыкі і гуманітарнага супрацоўніцтва МЗС Беларусі Ірына Вялічка ў сваім выступленні ў ходзе дыскусіі Генеральнай асамблеі ААН па пытаннях правоў дзіцяці, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе беларускага знешнепалітычнага ведамства.

Ірына Вялічка запрасіла кіраўніцтва Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і прадстаўнікоў краін-сяброў ААН прыняць удзел у гэтай канферэнцыі.

Намеснік начальніка ўпраўлення глабальнай палітыкі і гуманітарнага супрацоўніцтва МЗС Беларусі таксама прадставіла ўдзельнікам дыскусіі Генасамблеі ААН інфармацыю аб нацыянальных дасягненнях сваёй краіны па забеспячэнні правоў дзіцяці.

*Кар. БЕЛТА.*

# Малдова адмяніла візы для грамадзян больш як 60 краін

**Парламент Малдовы прыняў сёння закон, згодна з якім грамадзяне больш як 60 краін змогуць прыязджаць у рэспубліку і ажыццяўляць транзіт праз яе тэрыторыю без віз, паведамляе карэспандэнт БЕЛТА.**

У прыватнасці, малдаўскія дэпутаты адобрылі закон аб іншаземцах, абавязаных мець візу, і іншаземцах, вызваленых ад абавязкаў атрымання візы пры перасячэнні дзяржаўнай граніцы рэспублікі, а таксама зацвердзілі пералікі адпаведных дзяржаў. У адпаведнасці з дакументам, віза на ўезд, выезд і транзітны праезд праз тэрыторыю Малдовы будзе абавязковая для грамадзян больш як 130 краін свету. Права бязвізавага ўезду, транзіту і знаходжання на тэрыторыі Малдовы тэрмінам да 90 дзён атрымаюць грамадзяне больш як 60 дзяржаў, у прыватнасці краін СНД, Еўрапейскага саюза, а таксама ЗША, Канады, Японіі, Чылі, Эквадора, Новай Зеландыі, Сінгапура і іншых.

Паміж Беларуссю і Малдовай дзейнічае бязвізавы рэжым паездак.

*Андрэй Гусін - БЕЛТА.*

# Як пазбегнуць паражэння электрычным токам

**Ішуцін А.Н.**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляду».*

Рызыка паражэння электрычным токам існуе не толькі на вытворчасці, але, калі не ў большай ступені, і ў побыце пра карыстанні бытавой электраапаратурай: бо чалавек, які працуе непасрэдна з электрычнымі ўстаноўкамі ўсё-такі падрыхтаваны тэарэтычна і практычна. Выкананне прыведзеных ніжэй досыць простых правіл і рэкамендацый нашмат зменшыць верагоднасць паражэння электрычным токам.

Ніколі не трэба датыкацца да токаводных частак механізмаў ці апаратуры, калі няма абсалютнай упэўненасці ў тым, што яны абясточаныя. Спачатку варта пераканацца ў адсутнасці напругі пры дапамозе прыбораў: вальтметра індыкатарнай адвёрткі ці проста лямпачкі з правадамі. Такую лямпачку электрыкі ласкава завуць «кантролькай». Таксама не трэба забываць, што калі напругі няма, то яна можа з'явіцца ў любое імгненне. Варта таксама заўважыць, што ў некаторых, нават цалкам абясточаных прыладах, доўгі час захоўваўся электрычны зарад. Таму, вынятая з разеткі вілка, можа стаць крыніцай досыць адчувальнага ўдару токам. Вядома, такі ўдар не смяротны, але можа стаць прычынай досыць непрыемных наступстваў. Калі работа праводзіцца на вышыні, то міжвольны рух можа стаць прычынай страты раўнавагі і падзення. У пазбяганне выпадковага кантакту з токаводнымі часткамі варта звяртаць увагу на папераджальныя знакі. Яны ўсталёўваюцца не проста так дзеля прыгажосці.

Ніколі не варта датыкацца да электраправадаў і саміх электрапрыбораў мокрымі рукамі і наогул сачыць за вільготнасцю ў памяшканні. Калі раптам адбудзецца затапленне, электраправодку варта адключыць да поўнага прасыхання памяшкання.

Пры правядзенні электрамантажных і рамонтных работ варта карыстацца спраўнай праверанай прыладай: нават невялікая расколіна ізаляцыі на ручках пасатыж можа прывесці да электрычнага ўдару. Ніколі не варта адначасова датыкацца да бытавой электраапаратуры, уключанай у сетку, і прадметамі, злучанымі з зазямленнем вадаправоднымі трубамі ці батарэямі ацяплення. Калі ізаляцыя прыбора «прабівае» на корпус, то электраўдар, прычым дастатковай сілы, забяспечаны.

Калі справа даходзіць да ўзгарання праводкі ці бытавога прыбора, уключанага ў сетку, ніколі не спрабуйце патушыць агмень узгарання вадой. Вада добра праводзіць электрычнасць, таму электраўдар праз струмень вады практычна гарантаваны. Прыбор, які загарэўся, вядома, можна патушыць вадой, калі спачатку выдраць вілку з разеткі. Ніколі не варта карыстацца электрапрыборамі, калі яны маюць вонкавыя прыкметы няспраўнасці. Першым чынам, гэта расколіны ізаляцыі ці пластмасавага корпуса, сляды копаці і г.д. выкананне гэтых простых указанняў і рэкамендацый дазволіць, калі не звесці на нішто, то нашмат зменшыць небяспеку паражэння электрычным токам.



# У краіны Шэнгена – па новых правілах

**18 кастрычніка ўступае ў сілу новае правіла ўезду ў краіны Шэнгенскай дамовы.**

Яно ўсталявана рэгламентам ЕС № 610/2013. Незалежна ад таго, па візах якіх краін турыст заязджаў у шэнгенскую зону, агульная колькасць дзён яго знаходжання там зараз не можа перавышаць 90 за 180-дзённы перыяд, піша *travel.ru.*

Усе тэрміны знаходжання турыста ў краінах Шэнгена за апошнія 180 дзён сумуюцца. Сачыць за выкананнем тэрмінаў павінны самі падарожнікі, інакш на мяжы ў іх могуць паўстаць праблемы – памежнік палічыць дні знаходжання ў шэнгенскай зоне і, калі іх будзе больш 90 за апошнія 180 дзён, не пусціць у краіну.

Такім чынам, калі падарожнік за апошнія паўгода прабыў у краінах Шэнгена 90 дзён, то нават па толькі што атрыманай гадавой фінскай візе ён не зможа заехаць у Фінляндыю – прыйдзецца чакаць, пакуль пройдзе яшчэ 90 дзён, якія ў сукупнасці ўтвораць той самы «плывучы» 180-дзённы перыяд.

У наш час у зону Шэнгена ўваходзяць 26 краін, з іх 22 члены Еўрасаюза і чатыры дзяржавы, якія не ўваходзяць у ЕС.

Шэнгенская дамова — дамова пра адмену пашпартна-візавага кантролю на межах шэрагу дзяржаў Еўрапейскага саюзу, першапачаткова падпісанае 14 чэрвеня 1985 года пяццю еўрапейскімі дзяржавамі (Бельгіяй, Нідэрландамі, Люксембургам, Францыяй і Нямеччынай). Яно набыло моц 26 сакавіка 1995 года і спыніла існаванне 1 траўня 1999 года, было заменена Шэнгенскім заканадаўствам ЕС.

1 траўня 1999 года набыла моц Амстэрдамская дамова, якая ўнясла змены ў Еўрапейскую саюзную дамову. У адпаведнасці з V часткай абноўленай дамовы палажэнні Канвенцыі пра ўвядзенне ў дзеянне і ўжыванне Шэнгенскай дамовы былі ўключаныя ў заканадаўства ЕС. Адпаведная частка еўрапейскага заканадаўства замяніла Шэнгенскую дамову і атрымала зборную назву Шэнгенскага заканадаўства.

Новыя члены ЕС не падпісваюць Шэнгенскую дамову як такую: яны абавязвающа выконваць Шэнгенскія правілы як частку заканадаўства ЕС, якое яны павінны прыняць цалкам пры ўступленні. Змены ў Шэнгенскае заканадаўства ўносяцца не ў адпаведнасці з умовамі, якія былі вызначаны ў зыходнай дамове, а ў рамках заканадаўчай працэдуры ЕС.

Пры далучэнні да ЕС Ірландыя і Вялікабрытанія адмыслова агаварылі сваё права на няўдзел у агульнай палітыцы ЕС у аднасінах вонкавай палітыкі і вонкавай бяспекі, і таму не ўжываюць вялікую частку палажэнняў Шэнгенскага заканадаўства, у прыватнасці захоўваюць пашпартны кантроль на сваіх вонкавых межах і вядуць самастойную візавую палітыку.

# У Браслаўскім раёне ратавальнікі дасталі з каналізацыі каня




**Конь праваліўся ў каналізацыйны калодзеж дыяметрам 1 метр і глыбінёй 3 метры 17 кастрычніка ў вёсцы Рацюны Браслаўскага раёна .**

**Даставаць жывёліну з бетоннай пасткі выратавальнікам прыйшлося з дапамогай гаспадарчых рукавоў, вяровак і трактара, паведамляе прэс-служба МНС.**

**Конь не пацярпеў, у ветэрынарнай помачы не меў патрэбы.**

*Прэс-служба МНС*

## Падзяка

**Хачу выказаць шчырую падзяку калектыву кафэ "Лаліта".**

Мне двойчы давялося наведаць кафэ, якое знаходзіцца ў Глыбокім па вул. Мікалаева. У першы раз мой сябар запрасіў мяне на свой юбілей. Я была здзіўлена святочным сталом: прыгожыя, яркія разнастайныя стравы і закускі. Вось "царэўна-шупак фаршыраваная", уся ў лілеях і ружах. Язык заліўны – маляўнічы і апетытны ў празрыстым, смачным жэле. Прыгожыя, яркія канапэ, рулеты, запечаныя стравы, незвычайна смачныя салаты. Афармленне страў разнастайнае, нават не паўтараецца. Стол быў засняты на відэа, і колькі разоў я не спрабавала дома так прыгатаваць заліўных курыцу і язык – у мяне не атрымалася. Сапраўдны кухар-прафесіянал працуе ў кафэ "Лаліта".

У другі раз я наведала кафэ з сумнай нагоды: памёр сваяк. Намі быў заказаны памінальны стол і складзена меню па рэкамендацыі кухара. Мы вельмі ўдзячныя за ўважлівае і хуткае абслугоўванне, якасныя і смачныя стравы. Жадаем калектыву далейшых поспехаў у іх нялёгкай, але патрэбнай для людзей працы.

*З павагай Алеся, г. Мінск.*

## МНС інфармуе
**на 22.10.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 862;
Гібель людзей – 110, з іх 1 дзіця;
Урон – 3838,588 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 41;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 308.4 млн. руб.

# 14-гадовая мінская школьніца дапамагла схапіць рабаўніка

**Спачатку 14-гадовая школьніца паспрабавала самастойна затрымаць злачынца, але рабаўнік прыгразіў ёй расправай. Тады дзяўчына прасачыла за зламыснікам да самага яго дома і паведаміла ў міліцыю.**

Як паведаміла прэс-служба ГУУС Мінгарвыканкама, у мінулую нядзелю Валерыя гуляла разам з сяброўкай на вуліцы Ванеева. Нечакана дзяўчаты ўбачылі, як нейкі малады мужчына стаў вырываць торбу з рук жанчыны, якая ішла побач. Яна ўжо ўпала на зямлю, але рабаўнік, цягнучы жанчыну па асфальце, працягваў вырываць сумку, пакуль пацярпелая, нарэшце, не адпусціла рукі. Стаўшы сведкам злачынства, Валерыя кінулася за злыднем. Дагнаўшы рабаўніка, дзяўчына схапіла яго за руку і запатрабавала вярнуць сумку. Той спачатку нават здзівіўся, а потым пачаў лаяцца і прыгразіў расправай. Зрабіўшы выгляд, што спалохалася, школьніца адышла, а злачынец кінуўся ў бліжэйшы двор.

Валерыя, імкнучыся захоўваць канспірацыю, прайшла за ім. Яшчэ праз некалькі двароў адважная школьніца ўбачыла, як мужчына ўвайшоў у пад'езд дома. Пасля гэтага яна патэлефанавала па нумары «102».

Міліцыянтам, якія прыбылі, дзяўчына паказала пад'езд, у які схаваўся зламыснік, і апісала апошняга. Па апісанні адзін з супрацоўнікаў выказаў здагадку, што рабаўніком можа быць паднаглядны, што якраз пражывае ў гэтым доме. Гаспадар, натуральна, апынуўся дома.

32-гадовы раней судзімы непрацуючы практычна адразу ж прызнаўся ў зробленым. У дачыненні да яго распачата крымінальная справа.

Сёння раніцай кіраўнікі Партызанскага РУУС сталіцы наведалі школу, у якой вучыцца Валерыя, і ў прысутнасці выкладчыкаў і аднакласнікаў падзякавалі дзяўчыне за смелы ўчынак. Ад імя начальніка Партызанскага РУУС дзяўчыне ўручылі падзячны ліст, кветкі і грашовую прэмію.

— Для нас заўсёды вельмі каштоўна, калі гараджане дапамагаюць у пошуку або затрыманні злачынцаў — адзначыўнамеснікначальніка Партызанскага РУУС Аляксандр Рыдзецкі. - Вядома, гэта не першы выпадак, калі мінчане з актыўнай жыццёвай пазіцыяй садзейнічаюць у супрацьстаянні беззаконню. Але павінен прызнацца, што Валерыя — самы малады герой з гэтых станоўчых прыкладаў.

*Ej.by*

